**Цана нумэру 50 кап.**

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ШТОДЗЕННАЯ ГАЗЭТА.

Рэдакцыя Вострa-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 10—3 гадз.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. З безработных за усю абвестку 2 рублі.

**Адміністрацыя: Завальная № 7, «Белар. Кнігарня».** **ПАДПІСКА: на 1 месяц—10 руб., на 3 месяцы—25 руб.**

**Год I.** **Вільня, Пятныца, 25 ліпня 1919 г.** **№ 54.**

## БЕЛАРУСКІЯ ВУЧЫЦЕЛЬСКІЯ КУРСЫ,

назначаныя ў Горадні на 22 ліпня,

**ПЕРАНОСЯЦЦА У ВІЛЬНЮ**

**і пачнуцца 25-га ліпня (іюля).**

Заявы прымаюць у канцэляры Беларускай Гімназіі, Вастрабрамская, 9, ад 11 да 1 гадз.

## Незалежнасьць Беларусі и польская дэмакрацыя.

Адзін высокі дастойнік Польшчы, якога дагэтуль лічылі вялікім лібэралам, запрасіў да сябе эндэцкіх журналістаў.

У гутарцы, між іншым, крануўся ён і Беларусі; прычым заявіў, што, *незалежнасці Беларусі дабівацца некольні інтэлігентаў, не маючых ніякай апоры ў народзе.*

Кажуць, век жыві, век вучыся, дык можа разумным памрэш. Будзем спадзевацца, што высокаму дастойніку Бог дасьць яшчэ доўгі век і ўрэшце ён пераканаецца (будзем гаварыць шчыра: захоча пераканацца), што аб незалежнасьці Беларусі трэба гаварыць крыху разважней.

Цікава нам вось што, як да такіх выступаў і заяў адносіцца дэмократычная Польшча, на сваіх плячох пачуўшая цану сваей уласнай незалежнасьці, а знача ўмеючая шанаваць і ўсякую барадзьбу за незалежнасьці яе вядуць Ірландцы, ці ўрэшце Беларусы? Што можа сказаць у гэтай справе прымерам „Nasz Kraj“.

Пазыцыя, якую займалі летась прадстаўнікі ўсяго польскага грамадзянства, якія ўвайшлі ў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі згодзіліся на незалежнасьць Беларусі, для нас саўсім зразумела. Гэто логічны выхад з усей ідэолёгіі польскага змаганьня, гэто традыцыі Касьцюшкі, Каліноўскага, Дамброўскага. Чаму-ж цяпер тыя самыя людзі, што прошлай вясной віталі незалежнасьць Беларусі, чаму цяпер яны гэтак холадна, а часам і варожа становяцца да гэтай справы, якая ёсьць сьвятой для каждага беларуса, да справы незалежнасьці Беларусі. Чаму "Nasz Kraj" памешчае нейкія сэнсацыйныя весткі з Коўны, што напісаны з мэтай паказаць незалежнасьць Беларусі, як нейкую нямецка-расейскую інтрыгу? Чаму наш орган, якога палітычная праграма зводзіцца да аднаго слова—незалежнасць—выстаўляецца ў Варшаве нават «Gaz. Polska'ю», як «шовіністычны» і нават русафільскі? Ці ў вачох пілсудчыкаў незалежнасць ужо стала шовінізмам, а белеруская справа расейска-праваслаўнаю інтрыгаю? Калі гэтак, няхай яны не баяцца сказаць гэто аткрыта, як гэто робяць правыя сфэры. Нам такія закіды ня страшны. Яшчэ нядаўна чулі мы іх з маскоўскага боку. Царскія найміты абкідалі нас падазрэньнямі ў „польскай інтрызе“, а русыфікатары з „лібэралаў“ лаялі за шовінізм.

Ч—ч.

## Цэнтральная Сувязь спажывецкіх таварыств Беларускага краю.

I.

Вясковыя спажывецкія таварыствы беларускага краю, злучыўшыся дзеля больш поўнага здаволіваньня сваіх патрэб, утварылі цэнтральную сувязь гэтага краю, прычым на мейсца бытнасьці глаўнай кантолры і складу быў выбран Менск. З бегам часу лік коопэрацый—членаў сувязі узрастаў і дайшоў ліку 500 вясковых коопэратываў. Здаволеньне ўсіх іх таварамі з аднаго галоўнага складу сувязі станавілося ня толькі трудным для галоўнай канторы, але часам і нявыгодным для самых коопэратываў, кладучы на іх лішнія выдаткі па транспорту. Асабліва гэто датычыло коопэратываў Вялейскага, Ашмянскага, Дзісьненскага паветаў, якім больш выгодна было атрымліваць тавары з цэнтру, распаложэнага бліжэй, г. зн. Вільні. Выясьніўшы гэты варунак, урад Сувязі пастанавіў абсьледаваць закранутае пытаньне, а разам выясьніць і палажэньне Віленскага району.

Абследаваньне паказало, што агульнае палажэньне кооперацыі ў губэрні вельмі слабае і вымагае падтрыманьня. Дзеля таго, што аднэй з галоўных мэт коопэратыўнай злучнасці яўляецца пашырэньне і падтрыманьне коопэратыўнага будаўніцтва, то ў сувязі было пастаноўлена прыступіць да аткрыцьця у м. Вільні ня толькі таварнага складу для абслугі ўжо істнуючых коопэратываў гэтай аколіцы, але было прызнана патрэбным аткрыць і аддзел канторы з асобным інструктарскім аддзелам (у ліку якога быў Э. Будзько), з вялікай мэтай пашыраць і ўмацовываць коопэрацыю сярод жыхароў, кіраваць арганізацыяй і памагаць праяўленьню мяйсцовых коопэрацыйных сіл.

Гэтак арганізаваўся Віленскі Аддзел Цэнтральнай Сувязі спажывецкіх таварыств Беларускага краю.

В. О—ч.

.........

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

## Весткі Польскага Генэральнага Штабу.

*22 ліпня.*

**Літоўска-Беларускі фронт.**

Бітвы і стычкі на ўсім бальшавіцкім фронце йдуць, вельмі цяжкія былі бітвы на захад і на поўнач ад Радашковічаў. Усе старанні ворага прарваць нашыя лініі былі адбіты, дзякуючы энэргіі нашых ваеннаначальнікаў, адвазе і высокаму баёваму характару нашых атрадаў.

**Палескі фронт.**

Без перамены.

**Галіцыйска - Валынскі фронт.**

У Галіцы палажэньне не зьмянілося. Лік палонных, забраных пры ачышчэньні нашага тылу, павялічыўся на 496 чал.

На Валыні, на ўсход ад Маневічаў, на лініі Торыні разведчыкі абодвых старон.

**БАЛЬШАВІЦКІЯ ПАВЯДОМЛЕНЬНЯ.**

ВЕНА, 21 ліпня. Венскія газэты друкуюць бальшавіцкія апавешчэньня за апошнія дні. З заходняга фронта атрымана вестка аб заняцьці бальшавікамі Пскова. У кірунку Каменец-Падольска бальшавіцкія дзеяньні йдуць удачна. На паўднёвым фронце ў кірунку Харкава бальшавікі прасунуліся наперад. Штаб заходных войскаў даносіць, што Петлюра з прычыны таго, што бальшавікі прасунуліся каля Камянец-Падольску, зусім акружаны.

У Маскве адбыўся агляд войск, зложаных з салдатаў, уцёкшых з арміі Колчака.

Прамысловы вокруг Уралу знаходзіцца ў бальшавікоў.

На фінскай граніцы забрана шмат амуніцыі.

Войскі Денікіна адступаюць. Кацерынаслаў заняты чырвонымі войскамі.

Армія Колчака фактычна разьбіта. Часьць войск, выступаўшая проціў Колчака, будзе адпраўлена на Денікінскі фронт.

**Удачы петлюраўцаў.**

ВЕНА. Як падае да ведама Венскае Кар. Б., Вінніца, Жмэрынка і Бар заняты войскамі Петлюры. Ен знаходзіцца са ўсім урадам у Бары. Каля Праскурава бітвы йзноў пачаліся з удачай для петлюраўцаў.

**Денікін і Грыгор'еў.**

СЕВАСТОПАЛЬ, 21 ліпня. Бальшавіцкае радзіо піша: ген. Денікін адмовіўся прызнаць Грыгор'ева і загадаў яго аддзелам разаружыцца, з гэтай прычыны Грыгор'еў вядзе перагаворы з Румыніяй.

**Зьніштажэньне Пуцілаўскіх заводаў.**

ПЕЦЯРБУРГ, 21 ліпня. З прычыны ўзрыву падложаных мін, Пуцілаўскія заводы ўзарваны.

**Рух бальшавікоў у Варшаве.**

ВАРШАВА 21 ліпня ў пакінутым памяшчэньні, фабрыкі «Урдус» адбыўся мітынг камуністаў, пасьля яго, вучастнікі ў ліку 600 чал. зрабілі дэманстрацыйны паход з двумя чырвонымі штандарамі і пяяньнем рэвалюцыйных песьняў. Каля Зялезнай брамы паліцыя з 12-х чалавек загарадзіла дарогу маніфэстантам і запрапанавала ім разыйсціся. Некалькі маніфэстантаў маючых маузэры і браунінгі, пачалі страляць у паліцыю Было ранена два паліцэйскія. Тады паліцыя дала тры залпы ў паветры. Грамада ў панічным страху кінулася ўцякаць. Паліцыя арыштавала некалькі маніфэстантаў і адабрала ад іх чырвоны штандар. У арыштованых знойдзена бальшавіцкая літэратура. Наагул дзень 21 ліпня прайшоў спакойна.

**Што гаворыцца ў мірным трактаце аб Літве.**

У II аддзеле 14 часьці мірнага трактату, у параграфе 433 гаворыцца, што немцы адракаюцца мірнай умовы падпісанай у Брэст-Літоўску, адзываюць свае войскі з былых зямель рускай дзяр-

А. ГАРЭШКІ.

# РЭХА.

(Пераклад з польскага).

Нёман там цячэ паміж высокіх берагоў, з каторых на адным, сярод прасьцягу зялёнага збожжа растуць дзе-ня-дзе старыя йгрушы, бярозы і ясакары, а па краёх другога цягнецца паса цёмнага і густога лесу. У тым лесе, быццам заклятэ голас, на кожны воклік будзіцца прынаднае, срэбранае працяглівае рэха. Будзіцца і йзноў у свой зачараваны сон упадае. Але, часамі, вымаўляе хораша і выразьліва.

Асабліва ў вадным месцу, дзе высака над ракой, на малой плоскасьці вырас адвечны сгэбралісты ясакар, трэба толькі клікнуць: лю—басьць! каб лясны голас выразьліва, срэбна, працягліва адказаў таксама! лю-басьць. Часамі, падняты быццам радасьцю знойдзенага на мі жыцьця, па тры разы паўтарае кожнае слова. Калі пад ясакарам пакліча хто: браты! кожны раз далей, слабей, разьвейваючыся, але тры разы адкажа ён: браты! браты! браты!

О, любое рэха.

Была прынадная часіна, у канцы летняга дня, перад заходам сонца, вялікі круг каторага ў чырвоных і залатых вобалаках плыў усё ніжэй да цёмнае пасы лесу. Мора сьвятла залівало шырокія палі, над каторымі стаяў вялікі спакой, а ў сьвятле і спакоі жаўранкі, як стрэлы, шыбка, са срэбраным зьвіненьнем, узбіваліся так высака, што танулі і чэзлі ў сінім небе. Паветра, як-бы кубак, наліты крэпкім і пахнючым напіткам, было поўнае паху травы, у гэты час кошанай на блізкіх пожнях. Над дарогамі стаялі слупы аваднёў, залатыя, дрыжачыя, падобныя да безперастанку і аднатонна гудзячых струнаў. Далёка грукаталі вазы, што звазілі з пожань скошаную траву; часамі здалёку прылятаалі кароткія, празьлівыя стукі вострых кос.

Ішла дарогай, разьдзяляючай поле з гародамі невялікай вёскі сярод пакрытых недасьпелым збожжам зусім у той час бязлюдных палёў, дарога гэтая была пустой і бязлюднай. Аднак, калі разам з ёй паднялася на не вялікі ўзгорак, раптам, убачыла стаячае ўнізе дзіця. Малое каля трох гадоў, босае, у грубой кашулі, зашпіленай каля шыі бліскучай шпількай, мела яно на галаве шапку з чырвонай воўны, каторая акрывала ўсю галаву навокал, ад брывей, ясных і рэдкіх, аж да таго месца, дзе відаць было бела-льняныя валасы. Пасярэдзіне шапкі тырчэла досіць высока штосьць падобнае да какарды і разам да грабяня пеўня. Зусім адно, стаяла яно, выпрастаўшыся, рухаючыся, з малым пальцам у чырвоных, як маліна, вуснах і з вялікімі вочмі, каторыя заглядзіліся некуды далека. Сярод непарушнасьці твару, толькі гэтыя вочы блішчэлі жыцьцём; разагрэтыя сонцам, ігралі яны блескам ціхой, у сабе сабранай, унутраным сьмяшком цешучайся вясёласьці.

У досіць вялікай адлегласьці ад вёскі, разьдзеленыя з ёю цэлай шырынёй гародаў і полем пушыстага гароху, пад нізкой сьцяной яшчэ нявырасшага жыта, пасярод пустой дарогі — гэта маленькая непарушная фігурка выглядала прыемна і нeяк дзіўна. Можна было яе прыняць за вырасшага раптам з зямлі гноміка, басаногага, з чырвоным чубком над галавой. Чаго гэта прыйшло сюды гэтае дзіцянё? Што яго на гэтым месцу задзяржала? Што?—узлятаючая птушка, ці бліскучы авадзень, ці краска, што паднясла над жытам сваю карону, што ухівала радасьць у сінія вочы. Невядома чаму, але здавалася пэўным, што яму пагражала ў гэтым месцу нейкая небясьпека. Параконныя вазы, завешшые сена ў пуню, варочаліся назад на пожню і паказваліся здалёку, і вось, вось, са спуску дарогі маглі наехаць як раз на дзіця. Дадало крокаў, вочы дзіцяці памалу зьвярнуліся да мяне і ў тую самую мінуту, як мігнуць вокам, зрабілася з ім дзіўная зьмена. Наперад з перапалохам уздрыгнула ўсім сваім целам, потым маленькія ручкі падняліся да галавы і сьціснулі чырвоную шапку сударжным рухам страху, каторы выкрывіў яму твар і да непазнаньня шырока расчыніў яму вочы. Падумала, што хлопчык перапужаўся не наёмай яму асобы. Нічога яшчэ ў гэтым ня было асаблівага. З сьмехам і ласкавымі словамі падыйшла да яго, калі зьнейку прабуджаны з свайго стаўбняка і аняменьня, крыкнуў праразьліва і пачаў уцякаць, але так уцякаць, што аж маленькія ножкі перашкаджалі яму бегчы па пяшчыстай дарозе, аж заваліўся, зарыўшыся, і без таго чорным ад пылу, носікам у пясок, потым з нечаканай для яго шыбкасьцю падняўся з зямлі і пабег далей, разстаўляючы маленькія ручкі, і ўсё больш крычаў; сярод крыкаў можна было разабраць словы — Зьесьць! Зьесьць, мама! ой, зьесьць. Да—душы зьесьць! Мама! Мама!

Бег проста пад колы шыбка надъяжджаючых вазоў. Дагнаць яго, падха-

жавы і ня ўмешываюцца ў нацыянальныя і дзяржаўныя справы Літвы, Латвіі і Эстоніі.

У параграфе гэтым пішацца: Каб згодна з варункамі трактату ўсе ўмовы канвэнцыі і трактаты бышыя ў Брэст-Літоўску між Нямеччынай і максымалістычнай Расеяй былі спынены і каб запэўнілі немцы правінцыям прыбалтыцкім спакой і добры ўрад, усё нямецкае войска павінна выйсьці адтуль да Нямеччыны у адпаведны час назначаны коаліцыяй, залежна ад унутранага парадку гэтых абшараў. Войскі павінны устрымацца ад усялякіх рэквізыцый, зладзействаў і іншых выпадкаў, маючых на мэце здабыцьцё для Нямеччыны патрэбнага матэр'ялу, і катэгарычна яны ня маюць права шкодзіць узмацненьню нацыянальнай абароны, якая можа быць пачата ўрадамі Эстоніі, Латвіі і Літвы.

Ніякія нямецкія войскі ні ў пару эвакуацыі, ні пасьля яе, ні могуць быць дапушчаны ў вышэй азначаныя абшары.

Гэта аб Вялікай Літве.

Аб паўночнай часьці Малой Літвы гаворыцца ў некалькіх мяйсцох.

У II аддзеле, дзе пішацца аб граніцах Нямеччыны ў параграфе 28 пішацца: Граніца Усходняй Прусіі пачнецца ад Балтыцкага мора 1½ кіламэтра на паўноч ад Кірхі Проэбэрнаў уздоўж паўднёвай граніцы павету Марыенвердер, Остэроды і Нэйдэнбурга, далей уздоўж ракі Нэйдэ да бышай рускай граніцы 5 кіламэтраў на захад ад Бялуты, адтуль уздоўж бышай рускай граніцы да Смаленік, уздоўж Нёмна, далей уздоўж Скірвіцы, да Куронскага заліву, адтуль простая лінія да Мерзеі Куроньскай, 4 кіламэтры на паўднёвы захад ад Ніды, да адміністраціўнай граніцы і уздоўж адміністраціўнай граніцай да заходняга берагу Мерзеі.

У 3-й часьці т. «Справы палітычныя Эўропы», справе Малой Літвы адданы ўвесь 99-ы параграф аб Клайпэдзе. У ім гаворыцца аб гэтай справе так:

«Немцы адракаюцца на карысьць коаліцыі і хаўрусных дзяржаў ад ўсіх сваіх праў і прывілегій на тэрыторыі між Балтыцкім морам і граніцай паўночнай часьці Усходняй Прусіі, паказанай у 28 параграфе, ў 11 часьці трактату, ад былай нямецка-рускай граніцы. Немцы згаджаюцца з гэткай устанавай граніц гэтай тэрыторыі водле жаданьня хаўрусных дзяржаў на правы народаў якія жывуць на абшарах гэтых тэрыторыяў.

Аб Нёмні гаворыцца у XII часьці уп. „залівы, водная камунікацыя і чугунка“.

Нёман будзе адданы ў распараджэньне міжнароднай камісіі водле жаданьня дзяржаў прылягаючых да Нёмна. Гэта камісія будзе складацца з прадстаўнікаў наднёманскіх дзяржаў, і 3-х іншых дзяржаў паказаных Антантай.

**Перагаворы польскай і літоўскай дэлегацыі ў Парыжу.**

«Lietuva» ад 18 ліпня піша, што ў Парыжы польская дэлегацыя пробавала вясьці перагаворы з літоўскай дэлегацыяй. Перагаворы скончыліся мірна.

**Украінцы ніколі ня ўступяць сваіх праву у Ўсходняй Галіцыі.**

ВЕНА, 19 ліпня. Са Швайцарскага Бэрну пішуць, што генэральны сэкрэтарыят Найвышэйшай Рады Антанты адказаў украінскай мірнай дэлегацыі што коаліцыя даручыла польскаму ўраду ў усходняй Галіцыі ўвясьці цывільную адміністрацыю ў паразуменьні з дзяржавамі коаліцыі. Жыхары атрымаюць тэрыторыяльную аўтаномію, палітычныя і рэлігійныя правы.

Украінскія дэлегаты запратэставалі процiў гэтага, апавешчаючы, што украінцы ніколі не адмовяцца ад нацыянальнай барацьбы ў Усходняй Галіцыі.

**Праект Эрцбэргера аб налогах на капіталы.**

ЛЕНДАН. 14 ліпня. Эрцбэргер, міністр фінансаў у Нямеччыне апрацовывае дэталі вялікіх налогаў на капіталы. Гэтай дарогай ён спадзяецца атрымаць каля 12 мільярдаў франкаў. Гэтыя налогі думаюць устанавіць сьледуючым спосабам: маемасьць і капітал да 5000 фр. вольны ад налогаў, ад 5000 фр. да 2,000,000 фр. абкладаюцца стапнёвым налогам ад 10 да 65 %. Брыльянты разглядаюцца як капітал, калі іх цана правышае 20,000 фр. Першая выплата будзя 1 студня.

(Matin).

**Яшчэ адна рэспубліка.**

БЭРЛІН. 21 ліпня княжства Біркэнфэльд, што ляжыць на левым беразе Рэйна і належыць да Ольдэнбургу, абвесьціло сваю незалежнасьць і сарганізавалася як

---

піць і адсунуць на бок поля, паросшага густым гарохам—было лёгка. Але тады страх хлопца узрос да гэткай меры, што стаў дзіўным. Дарма з ласкаю гладзіла яго па галаве і па твару, дарма сілілася ўлажыць у расхіленыя і пакрыўленыя вусны цукерку, вынутую з кішэні, дарма прыкладала да малога чырвонага, як тульпан, вуха чыкаючы гадзіньнік, трывога яго ўсё расла, цела яго пачало дрыжэць, як у канвульсіях, залітыя ручаямі сьлёз шчокі дрыгаліся, у вачох адбівалася хваравітая няпрыемнасьць. Ня бачыў, ня чуў, ня адчуваў нічога. Ужо з нялюдзкім проста выглядам, з зьдзіўляючым высілкам, верашчэў усё адно:— Зьесьць, зьесьць! Да-душы зьесьць! Мама, мама! Ой, ой! ой! зьесьць

Што тут рабіць? Хоць вазы ужо і праехалі, пакінуць гэтага малога сярод дарогі, здавалася ў гэты час нейк нядобрым. Занясьці яго да вёскі таксама было цяжка: трэба было мець больш сілы, каб утрымаць яго цяпер на ўлоньні.

Як раз, з зялёнай гушчыні бліжэйшага гароду, паміж высокіх канапель, лебяды, паказалася кабета. Яна была маладая, высокая, таўстая і румяная, і бегла шыбка да нас, пераскаківаючы цераз баразны.

Відаць,—мыла хусьце ў хаце, бо яе вялікія чырвоныя рукі былі мокрыя. З зьбіўшайся жоўтой хусткай на чорных валасох, у каратқай спадніцы і паласатым хвартуху да нас даскочыла і ў міг вока падхапіла хлапца, прыціснула яго да сваіх шырокіх грудзей, на каторых сярод зборак вілася чырвоная тасемка з бранзовым крыжыкам на канцы. Прылажыўшы свой распалены і спатнелы твар да галавы дзіцяці, абціраючы мокрай рукой ад сьлёз яго шчокі, яна гняўлівым голасам прамаўляла:

— Хвароба ты! каб цябе ўдушыла! Чаго ты верашчыш—аж у хаце чуваць? Ай, і спалохалася-ж я, аж мяне трасьці начало.

Супакоіўся ў матчыных абоймах, крычэць перастаў і толькі доўга яшчэ ціхага хліпаньня зьдзяржаць ня мог. Адвярнуўшыся ад мяне, абпёрся лобам аб шыю маткі, а свой чорны ад пяску нос зусім на грудзёх матчыных сплюшчыў, так дужа да іх тварам прыціснуўся. Яна шырокімі крокамі павярнулася да хаты, нізкая сьцяна каторай з прызбай і вузкім панадворкам паказаваліся з-за городу.

— Чаго ён так перапужаўся? запыталася.

Дурны! Надта ён яшчэ дурненькі...— адказала.

— Ня ведаец, чаму ён крычаў: зьесьць! зьесьць! На каго ён думаў, што яго зьесьць?

Пранула плячыма, але са зьмяшаньня яе твару, здагадалася, што ведае, добра ведае. Расказала дзе спаткала хлопчыка, аб пустой дарозе і над'яжджаючых вазох. Пэўне перапужыўся

— Ах, Божа-ж мой!—загаманіла-усё здарыцца магло! Усякаму няшчасьцю— лёгка.

Яшчэ раз голасна пацалавала хлопчыка ў галаву і гняўлівым голасам пачала ізноў:

— Чаго ты туды йшоў, хвароба. Якое ліха цябе туды панясла!

— Як яго зваць?

— Прануком.

— Тры гады, пэўне, мае?

— На Пакрава яму будзе тры і дванаццаць тыдняў.

— Харошы хлопчык, якія ў яго прыгожанькія сінія вочы.

Засьмяялася шырока, здаволеная, пашлёпала хлапца далоньню па плячох і глянула ня мяне з разьяснеўшымся тварам.

— Прыгожанькі сабе і разумненькі... Аж дзіва, які разумны, усё ужо разумее.

— А чаму-ж ён сяньні гэтак спалохаўся?

— Ось, бачыце, *дзед* страшыць.

— Які дзед?

— А *майго*, значыцца бацька... добра ўжо стары. Працаваць ня можа, дык толькі й яго помачы, што ў хаце на печы ляжаць, ці там на прызьбе седзючы дзяцей пільнаваць. Вось і дапільнаваў сяньні... каб яго.

— Чым-жа-ж ён дзяцей страшыць.

Запытаўшыся аб гэтым, паглядзела ў твар Пранука, каторы ён паціху пачаў падымаць ад грудзей маткі; вусны яго ізноў пачалі крывіцца, як да плачу, але я іх зараз-жа замкнула, уложанай ў іх цукеркай.

Задаваленьне маткі ўзрасло яшчэ больш.

— Вядома, стары,—адказала—зусім здурнеў... Умаўляе дзяцём, каб уцякалі, калі каго ў чорнай вопратцы ўбачуць.

— Чаму?

— Вядома, дурны. Зьесьць, кажа. Засьмяялася, але з нейкім прымусам. Не хацела адмаўляцца адказаваць на маё пытаньне а чула сябе зьмяшанай.

— Хто зьесьць?

— А быццам тыя людзі, што у чорнае апраненыя ходзяць...

(*Далей будзе*).

біркэнфэльдская рэспубліка. Француськія ўласьці гэту рэспубліку прызналі.

(П. А. Т.)

**Варункі міру для Аўстрыі.**

ПАРЫЖ. 21 ліпня. Водле пунктаў трактату, Аўстрыя будзе магла трымаць толькі 30,000 чал. салдатаў, разам з афіцэрамі. Набор вайска будзе толькі з ахотнікаў. У справе выплаты страт утворана будзе спэцыяльная камісія, ў якую будуць ўходзіць прадстаўнікі Англіі, Францыі і Італіі, кожны з іх будзе мець 2 голасы. Румынія і Польшча будуць мець аднаго супольнага прадстаўніка. Лік кантрыбуцыі будзе абвешчан перад 1 мая 1921 году.

(П. А. Т.)

# З газэт.

«Виленск. Курьер» № 37, друкуе стацьцю Львовіча, пад загалоўкам «Адзіная ці фэдэратыўная Расея», у якой між іншым кажа:

...«працэс адраджэньня Расеі павінен пайсьці па іншаму лагву: ад расейскіх акраін да цэнтра.

«Запраўды здольные да незалежнага дзяржаўнага істнаваньня нацыянальнасьці і землі, паступенна зьвальняючыся ад бальшавіцкіх цянётаў, будуць незалежна ад цэнтру, арганізовываць сваё жыцьцё і ўстанаўляць у сваіх межах парадак і права, выпаведаючы сваю волю праз свае устаноўчые сабраньня, або іншыя органы нацыянальнага прадстаўніцтва.

Гэткім чынам на руінах колішнай Расейскай імпэрыі будзе памалу утварацца крэпкі быт вольных народаў, злучаных ня гвалтам і самадумнасьцю, а агульнасьцю эканамічных і культурных інтарэсаў».

* * *

«Naš Kraj» № 77, пасьвячае перэдавіцу адносінам польска-беларускім, падчорківаючы свае найбольш жычлівыя адносіны да беларусаў. У пасылцы дэлегатаў Беларускай Рады ў Вершаву «N. K.» дабачае, «што тутэйшыя беларусы зачынаюць сваю палітычную лінію устанаўляць у прыхільным стасунку да Польшчы».

Рэдакцыя хоча вытлумачыць рад мамэнтаў, якія беларускай інтэлігенцыі дагэтуль ня ясны і дзеля якіх польска-беларускія стасункі дагэтуль не стаяць на саўсім шчырым грунце.

«У першы чарод беларусы павінны зразумець, што Польшча ня хоча анэктаваць Беларусі, што ніякіх заборчых у стасунку да яе мэт ня мае і справу будучых дзяржаўных адносін хоча аперці на слушных і справядлівых асновах: на волі народу. Апіраючыся на волі народу, які ў сваім часе будзе паклікан, каб высказаўся аб будучыне краю, Польшча аднакова адносіцца да ўсіх нацый, край наш заселяючых, аднакова да палякоў, як літвіноў і беларусоў.

От-жэ беларусы і не разумеюць, на якой аснове, без плебісцыту, бяз згоды беларускага грамадзянства, праведзены выбары ў польскі сойм ад беластоцкага, бельскага і сакольскага паветаў. Воля народу— самы лепшы спосаб самаазначэньня, але ўсе народы заселяючыя наш край павінны перад гэтым быць пастаўлены ў аднаковыя варункі, чаго дагэтуль няма і на што не заносіцца. У першы чарод мы тут ставім справу касьцельную. У 1839 гаду царскі Указ выкінуў беларускую мову з касьцёлу і царквы. І гэты гвалт дагэтуль не папраўлен. Калі польскае грамадзянство папраўдзе хоча быць справядлівым, няхай гэто дакажэ ня словамі, а чынамі: няхай рэстытуе правы беларусаў у касьцеле, школе і мяйсцовым урадзе. Гэто варунак першай вагі, без якога справа абостароннага зразуменьня яе ня выйдзе з рамак тэорыі.

Пры гэтым мы павінны зазначыць, што між беларускім грамадзянствам паміма розных партыйных праграмоў ёсць поўная солідарнасць што да будучыні Беларусі: Беларусь павінна быць незалежна і непадзельна. На тэрыторыі беларускай павінна абавязываць усіх беларуская мова, што не выключае ніводнай краёвай мовы.

Мэнторскі канец стацьці тхне афіцыозам і гэто ня ліцуе з яе пачаткам.

Са сваей стараны мы павінны зазначыць, што калі ад слоў польскія кіруючы кругі пэройдуць да дзела у справе шчырасьці у польска - беларускіх адносінах, то ў беларускім грамадзянстве яны знайдуць не лганы дэмократызм у тэорыі і практыцы.

## Ліст у Рэдакцыю.

Паважаны Пане Рэдактар!

У № 71 газэты „Dz. Wil." надрукавана заметка аб тым, што ў краме Коопэрацыі „Райніца" на Пірамонце працаўнікі гавораць па расейску і навет прыведзен цэлы дыалёг дзеля довaду «маскоўскай фабрыкацыі» беларусаў.

Ня варта было-бы звяртаць увагу на заметку ў гэтай газэце, калі-бы яе не перэдрукавала ў № 6 «Biełaruskaje žyćcio» з камэнтарыямі, выклікаючымі на об'яснення.

Дзеля гэтага лічу патрэбным асьвятліць апісываная здарэньне.

На фразу аўтора заметкі я адказаў нейкімсь словам схожым з расейскім і пасьля на пытаньне, ці добра я ведаю расейскую мову, адказаў, што „не дасканала".

Усё-ж надрукаванае у «Dz. Wil.» адносіцца да спэцыяльнасці перакручываньня фактаў і яўляецца або выдумкай выдатнай фантазыі аўтора, або адным з дыскусіонных спосабаў рэдакцыі «паважанай» газэты, тэндэнцыйныя адносіны якой да нас беларусоў і усяго беларускага, даволі ўсім ведомы.

*Прадавец крамы «Райніца» на Пірамонце.*

Рэдактар і выдавец Э. Падгайскі.


**ПАТРЭБНЫ**

Беларускаму Нацыянальнаму Камітэту

**канторшчыкі і канторшчыцы,**

добра знаючыя беларускую мову.

З'яўляцца па адресу:

**Вострабрамска № 9, канцэлярыя Камітэта, покой № 5.**

**БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ КАМІТЭТ**

паведамляе родных і знаёмых арэштаваных беларусаў аб арганізаваньні пры Камітэце (Вострабрамская, № 9) Камісіі дзеля падачы юрыдычнай помачы.

Камісія прыймае з 12 — 2 гадз. у дзень штодзенна, а ў панядзелкі і сьвяты з 1—2 г. дня.

**УСІХ,** ХТО ШУКАЕ РАБОТНІКАЎ, просім зварочавацца ў сэкцыю безработных Беларускага Нацыянальнага Камітэту м. Вільні (Вострабрамская 9), ад 10 да 3.

**БЕЛАРУСЫ!**

Усіх, хто мае лішнія беларускія, альбо іншыя кніжкі, просім ахвяраваць іх Беларускай Вайеннай Арганізацыі дзеля стварэньня вайсковай бібліатэкі.

Кнігі прыймаюць у Рэдакцыі „Беларуская Думка",

— *Вострабрамская 9,* —

*Хто прыезджае у Вільню і мае хоць каліўца часу пахваліцца сваімі мястовымі, месьцячковымі ці вясковымі навінамі; хто хоча сам даведацца аб патрэбных яму і грамадзе беларускіх справах і навінах ці дастаць беларускую літэратуру,—няхай ен будзе ласкаў не абмінуць сваю беларускую Рэдакцыю.*


Пазволено военнаю цэнзураю. Друкарня «Віленскага Выдавецтва», Мала-Стэфанаўская, 23